*Разблытайма таямніцы!*

# Скарб думак

**№ 7.**

ПАНЯДЗЕЛАК **8** СНЕЖНЯ 2003 ГОДА

***Незалежнае рознабаковае выданне***

**Сёння ў нумары:**

БЕЛАРУСКАЯ МІНУЎШЧЫНА № 4 1995
ГІСТОРЫКА-ПУБЛІЦЫСТЫЧНЫ ІЛЮСТРАВАНЫ ЧАСОПІС

**Роздум**

Святаслаў Асіноўскі. Вільгельм Кнорыньш: "Мы лічым, што беларусы не з'яўляюцца нацыяй".

(стар. 2)

**Дыягназ сыстэмы адукацыіі Беларусі**

Беларусь сцэнары рэформаў

Эўрапейскі выбар для Беларусі

Максім Жбанкоў, Аляксандар Палоньнікаў

***СТАРОНКІ КНІГІ*** *Глядзіце старонкі 3-4.*

Зваротная сувязь.

*Помнік у сувязі з бітвай на рацэ Нямізе ў 1067 г. Знаходзіўся ў пачатку цяперашняй вуліцы Мяснікова. Фота 1897 г.* →



Паважаныя чытачы!
Калі Вы ведаеце гісторыю гэтага помніка, калі ласка, распавядзіце яе і рэдакцыі „Скарба Думак".

Тэлефон: 233 61 89.
**E-mail:** lebiedz@tut.by.

З кнігі Васіля Іванавіча Каляды „Мінск учора і сёння" 1988г. (Стар. 19) →

**Ларыса ГЕНІЮШ**

***

*Страх -- за праўду кінуцца ў бой,*
*Страх.-- не дагадзіць акупанту,*
*Быць удома самім сабой,*
*Чалавекам быць! -- страх пракляты...*

*Суд -- за думкі вольны размах,*
*Воля -- толькі прадажнаму слову.*
*Беларусам быць -- тройчы страх,*
*Страх -- валодаць роднаю мовай.*

*Страх -- удалечы мець братоў,*
*Перад зьдзекам страх не скарыцца,*
*Страх -- маліцца на мове дзядоў,*
*Дзікі страх -- наогул маліцца!*

*Страх -- што ў вечары Каляда,*
*Страх за сына, што пойдзе ў школу,*
*Страх -- што бліжняга не прадаў,*
*Страх -- што чэсны, што не жывёла.*

*Страх гуманнасьці, дабраты,*
*Перад рускім страх, перад ляхам...*
*Ці ж мы горшыя, га, Браты?*
*Можа хопіць гэтага страху?*

***

*Кажуць -- добра, а мне ўсё нядобра:*
*Я ня бачу ўжо сэрцаў харобрых,*
*Я ня бачу вачэй, закаханых*
*Назаўсёды ў зямлю курганную.*
*Тут купляюць усё за грошы,*
*І няма Кастусёў -- толькі Прокшы.*
*Волю краю -- дзядоў летуценьні*
*Прадаюць сёньня разам з сумленьнем,*
*Веру продкаў сівую і мову,*
*Нават душу прадаць гатовы,*
*Усё бяз болю даюць, бяз бою,*
*Тут ня скажуць: "сваё", "сьвятое",*
*Тут адданых народу брацьцяў*
*Як Хрыста вядуць на расьпяцьце.*
*Хто прад злыднем ня стаў на калені,*
*У таго кідаюць каменьнем.*
*Усё тут нагла, усё бязбожна,*

*І "крывіч" тут казаць няможна!*
*Нельга думаць, сьпяваць, сьмяяцца, -*
*Толькі праца, тупая праца!*
*Зноў над намі воля чужая,*
*Зноў глуміцца маскаль над краем,*
*Зноў выконваць чужыя "пляны"*
*Беларусам наканавана...*

***

*Край мой любы, птушка падбітая,*
*Больш магілаў тут, чым калыскаў.*
*Баляць раны яшчэ незажытыя,*
*Не загояць іх абяліскі.*

*Змыла неба сьнягамі, зьлівамі*
*Сьлед ахвярнай крыві гарачай,*
*Толькі дрэвы, што над магіламі,*
*Яшчэ й сяньня маўчаць і плачуць.*

*Зарастае, кулямі зворана,*
*Ніва жытам-аўсом ўперамешку,*
*Па ёй маткі, як галкі чорныя,*
*Да магіл пратапталі сьцежку.*

*Вокал неба хмарнае, хмарнае,*
*Кропіць дожджык густыя травы,*
*Па-чужацку пяюць над ахвярамі*
*Пра геройства, пасьмертную славу.*

*Граюць гімны чужым начальнікам,*
*Звоняць грудзі іх мэдалямі.*
*Толькі маткі плачуць адчайна*
*Над магіламі, над крыжамі...*

*Лёгка "славу" зваць несьмяротнаю,*
*Патаптаўшы боль чалавечы,*
*Толькі ж словы болю гаротнага*
*Боль у сэрцах нам не залечаць...*

***

*Йду па Менску, нідзе свае мовы ня чую,*
*Можа, сьцішана б'ецца пад сэрцам яна?*
*Крывічам хочуць праўду падкінуць чужую,*
*Але ж праўда ў народа адвеку адна!*

*Ад народзін адну толькі ведаем маці,*
*Нашых продкаў сярмяжных ня зблытаць ні з кім.*
*Гаварэця ж, Браты, як сялянская Маці -*
*Беларусь, Маці нашая перад усім!*

***МОВА***

*Сьцішаным сэрцам я чую: бурліць*
*нібы вясновыя воды,*
*мова адвечная з родных крыніц,*
*мова зямлі і народа!*

*Вякі надбіваюць, спыняюць яе*
*чужацкія дзікія орды,*
*а мова -- жывая, а мова пяе,*
*гучыць яна ўпэўнена, горда!*

*Людзі, цясьней! Няхай сэрцы ня сьпяць,*
*зь зямлі мы адной і з роду,*
*змагацца з насільлем і мурам стаяць,*
*і быць нам народам, ня збродам!*




56 Ларыса Геніюш Вершы

***

*Край мой любы, войнамі змучаны,*
*Над народам сьмяротны цень...*
*Моладзь споена, моладзь аблучана -*
*Ці падыме Цябе з калень?*

*Адным -- чарку, другім -- у партыю,*
*Толькі б нечым заціснуць рот.*
*А дзе ж тыя, чагосьці вартыя,*
*Што стаялі б за свой народ?*

*Шкода вас, хлусьнёй заняволеных...*
*Мовы роднае не чуваць.*
*Можна збожжа прадаць, жывёліну,*
*А ці можна душу прадаць?*

*Не было нам ніколі соладка,*
*Горда ўмелі мы боль стрываць.*
*Можна хату прадаць і вопротку,*
*А ці ж можна Маці прадаць?*

(Працяг, пачатак у №6)

У гэтых умовах новыя эліты («новыя беларусы», якія ўтойваюць даходы і вывозяць капітал за мяжу, новая рэклямная і мэдыяэліта і г. д.) існуюць альбо ў сукрытай, няяўнай форме, альбо «ўрастаюць» у існыя ўладныя структуры. Фармаваньне новых элітаў і іх зьяўленьне праз ясныя дэмакратычныя працэдуры супярэчыць інтарэсам улады, якая манапольна рэгулюе грамадзкі рух. Да таго ж іх зьяўленьне блякуецца «саўковымі» ўстаноўкамі часткі беларускага насельніцтва. Новыя «актыўныя меншасьці» ня маюць рэальнай прасторы для сваёй легітымізацыі, што запавольвае працэс іх афармленьня і выклікае актыўны «экспарт мазгоў» у памежныя краіны.

З вышэйсказанага вынікае, што ў сучаснай Беларусі адсутнічае натуральная для нармальнага «адкрытага грамадзтва» (К. Попэр) дынаміка абнаўленьня і росту нацыянальных элітаў. У выніку адбываецца крызыс самаідэнтыфікацыі беларускага грамадзтва. Наяўныя «эліты ўчарашняга дня» няздольныя ні глыбока адрэфлексаваць сацыяльныя працэсы, ні распрацаваць эфэктыўныя сцэнары грамадзкага разьвіцьця, ні забясьпечыць іх адэкватную рэалізацыю. Адзін з істотных фактараў замацаваньня агульнай сацыяльнай стагнацыі — адсутнасьць разьвітай сыстэмы элітарнай адукацыі, здольнай забясьпечыць рэгулярную даставу высокакваліфікаваных кадраў на вышэйшыя пятры сацыяльнай структуры.

## Навукова-дасьледчая дзейнасьць

Традыцыйным складнікам сыстэмы адукацыі (найперш у сфэры вышэйшай школы) зьяўляецца навукова-дасьледчая актыўнасьць яе супрацоўнікаў. Спалучэньне выкладчыцкай і дасьледчай актыўнасьці дае магчымасьць практычнай «апрабацыі» новых навуковых здабыткаў, атрыманых у працэсе выкладаньня.

Цяперашняя сытуацыя ў адукацыйнай сыстэме Беларусі (асабліва ў сыстэме выкладаньня дысцыплінаў гуманітарнага цыклю) не ствараe рэальных матывацыяў для эфэктыўнай навуковай працы. Найперш гэта зьвязана з уставічнай перагрузкай выкладчыкаў: празьмерным аб'ёмам аўдыторных заняткаў, вельмі складанай сыстэмай справаздачнасьці, неабходнасьцю дзеля годнага заробку шукаць дадатковую працу. Разнастайныя гаспадарчаразьліковыя работы (за выняткам ідэалягічных замоваў) аплачваюцца вельмі кепска і найчасьцей ня маюць рэальнага выкарыстаньня, асядаюць на паліцах архіваў у выглядзе бясконцых «справаздачаў аб праведзенай працы». Выкананьне так званых плянавых тэмаў зводзіцца пераважна да хаатычных дасьледчых высілкаў навуковых супрацоўнікаў.

Падзеньне накладаў навуковай спэцыяльнай літаратуры, скарачэньне апошнімі гадамі колькасьці міжнародных кантактаў, відавочна дэкарацыйны характар разнастайных сэмінараў, чытаньняў і канфэрэнцыяў, дзяржаўнае фінансаваньне навукі (у тым ліку і на базе ВНУ) паводле рэшткавага прынцыпу, мінімальны адсотак камэрцыйных замоваў у агульнай колькасьці навуковых працаў ВНУ, адсутнасьць за апошнія гады заўважных прарываў і дасягненьняў выкладчыкаў ВНУ надаюць такім навуковым дасьледаваньням усё больш маргінальны характар. Навука на базе ВНУ стаецца справай альбо графаманаў, альбо энтузіястаў, альбо чыноўнікаў ад навукі, якія бясконцымі сустрэчамі актыўна асвойваюць «адукацыйны турызм».

Істотны аспэкт крызысу навукі пры ВНУ — адсутнасьць матэрыяльнай базы для дасьледчай працы. Тут варта адзначыць як недастатковую тэхнічную забясьпечанасьць (асабліва гэта тычыцца пэрыфэрыйных ВНУ), так і адсутнасьць пэрыядычнага абнаўленьня кніжных фондаў і электронных базаў дадзеных.

Творчыя групы дасьледнікаў ня маюць магчымасьці працаваць на камэрцыйнай аснове і самастойна распараджацца заробленымі сродкамі, укладаць іх у пашырэньне дасьледаваньняў.

Павышэньню дасьледчага патэнцыялу ВНУ замінае і існая сыстэма наданьня навуковых ступеняў і годнасьцяў. Павышэньне ўзросту дактарантаў, а таксама адчувальнае скарачэньне колькасьці асьпірантаў і спаборнікаў выклікана адсутнасьцю пэрспэктываў паляпшэньня іх прафэсійнага статусу і якасьці жыцьця. Распаўсюджанае ў навуковым асяродзьдзі нежаданьне марнаваць некалькі гадоў на аўтарскае навуковае дасьледаваньне для атрыманьня кандыдацкай ці доктарскай ступені абумоўлена і яўна агрэсіўнымі паводзінамі Вышэйшай атэстацыйнай камісіі, якая неаднакроць «зарэзвала» сапраўды наватарскія і арыгінальныя працы. Абараніць дысэртацыю ў Маскве ці Санкт-Пецярбургу значна лягчэй, чым у родным Менску. Такая сытуацыя выклікае скарачэньне колькасьці творча актыўных дактароў і кандыдатаў навук: старэйшыя пакаленьні сыходзяць з навуковай сцэны, новыя ў навуку не ідуць. У выніку адбываецца ўсерадненьне ўзроўню выкладаньня і навуковай працы.

**Дактары навук і прафэсары ў % ад агульнай колькасьці асноўнага штатнага пэрсаналу ВНУ***




* Крыніца: Галоўны інфармацыйна-аналітычны цэнтар Міністэрства адукацыі РБ.

Галоўным зьвяном сыстэмы адукацыі дзеля аб'ектыўных прычынаў становіцца не актыўная моладзь, а канфармісты старэйшага веку — часьцяком былыя ідэалягічныя работнікі, якія здабылі ў свой час навуковую ступень за працы з навуковага камунізму ці з марксісцка-ленінскай філязофіі.

Існая сыстэма навукова-пэдагагічных годнасьцяў не адпавядае эўрапейскім стандартам, а іх наданьне, у адрозьненьне ад эўрапейскай практыкі, жорстка цэнтралізаванае.

**Кандыдаты навук і дацэнты ў % ад агульнай колькасьці асноўнага штатнага пэрсаналу ВНУ***




* Крыніца: Галоўны інфармацыйна-аналітычны цэнтар Міністэрства адукацыі РБ.

Дадатковым абмежаваньнем дасьледчай актыўнасьці работнікаў сыстэмы адукацыі становіцца рост стандартызацыі ў адукацыі і павышэньне кантролю за «правільнасьцю» вядзеньня навучальнага працэсу. Патрабаваньне ад супрацоўніка «кананічнага» выкананьня сваіх прафэсійных абавязкаў, насьцярожана-крытычнае стаўленьне да любой навацыі і экспэрымэнту, відавочна, несумяшчальныя з творчай самарэалізацыяй выкладчыка.

Наяўная сыстэма штогодняй атэстацыі супрацоўнікаў ВНУ наўпрост ня зьвязвае іх навуковую прадукцыйнасьць з матэрыяльным стымуляваньнем і кар'ерным ростам. Актыўны дасьледчык-гуманітар з ВНУ займаецца навукай у аўтаномным рэжыме, на свае страх і рызыку. Пасыўны — імітуе творчы парыў, працуе як кампілятар. І той, і іншы ў творчым пляне існуюць пазасыстэмна, вырашаючы свае заданьні ў межах адукацыйных цыкляў. З гэтага вынікае, што тэрмін «навуковая супольнасьць» адносна вышэйшай школы можна выкарыстоўваць толькі ўмоўна. Рэальна існуе пэўная карпарацыйная супольнасьць, пазбаўленая ўстойлівых унутраных стымулаў да творчага росту і павышэньня дасьледчага патэнцыялу. На ўзроўні сыстэмы працуюць толькі вонкавыя стымулы — дзяржаўная замова, сумесныя праграмы ў рамках СНД, заходнія гранты. Крэатыўнасьць падмяняецца справаздачнасьцю, навуковы пошук — імкненьнем згадаць жаданьне замоўцы. З «фабрыкаў думкі», лябараторыяў інтэлектуальнага пошуку ВНУ ператвараюцца ў «фабрыкі сэрвісу», дэманструючы ў якасьці сваёй галоўнай вартасьці сэрвільнасьць, то бок мастацтва лёкайства.

## Сыстэма кіраваньня і самакіраваньня*

У артыкуле 44 Закону «Аб адукацыі» 2002 г. дэкляруецца дзяржаўна-грамадзкі прынцып кіраваньня ў сфэры адукацыі. Аднак гэты прынцып фактычна скасоўваецца працэдурай стварэньня органаў самакіраваньня (да якіх чамусьці адносяцца толькі рады і апякунскія рады): «Палажэньне аб органах самакіраваньня павінна зацьвярджаць Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусі»[12]. Тым самым дзяржавай блякуецца стварэньне сапраўды грамадзкага мэханізму кіраваньня адукацыяй і забясьпечваецца ягоная поўная падкантрольнасьць.

* Падраздзел напісаны пры ўдзеле Сьвятланы Крупнік і Ўладзімера Мацкевіча.
[12] Галоўны інфармацыйна-аналітычны цэнтар Міністэрства адукацыі (www.cacedu.unibel.by/Education).



(Заканчэньне на стар. 4)

# 4 Дыягназ сыстэмы адукацыі Беларусі

Максім Жбанкоў, Аляксандар Палоньнікаў

(Заканчэньне)

**ПЕРАДРУК**

Адукацыйная сыстэма Беларусі застаецца цэнтралізаванай і непадкантрольнай грамадзтву. Згорненыя рэформы, пачатыя пасьля абвяшчэньня незалежнасьці краіны. Актуальныя кірункі афіцыйных рэфарматарскіх высілкаў скіраваны на стварэньне структуры 12-гадовага школьнага навучаньня, пераход школы на 5-дзённы навучальны тыдзень, увядзеньне ў навучальных установах 10-балавай сыстэмы, а ў вышэйшых навучальных установах — шматузроўневай (шматпрыступкавай) сыстэмы навучаньня (бакаляўр — 4 гады, спэцыяліст — 5 гадоў, магістар — 6 гадоў).

Усе гэты навацыі аніяк не закранаюць сыстэмы кіраваньня адукацыяй.

Заканадаўства, якое рэглямэнтуе адукацыйную дзейнасьць, анахранічнае, «новыя» заканадаўчыя распрацоўкі адтвараюць базавыя прынцыпы каманднa-адміністрацыйнай сыстэмы ў адукацыі. У новай вэрсіі закону аб адукацыі выкрасьлены артыкул аб гаспадарчай дзейнасьці навучальных установаў, скасаваная падначаленасьць Міністэрства адукацыі парлямэнту, надзвычай невыразна вытлумачана ідэя акадэмічных свабодаў вышэйшых навучальных установаў. Заканадаўча блякуецца правядзеньне рэальных рэформаў у адукацыйнай сфэры.

Новы закон замацоўвае савецкую клясыфікацыю ступеняў адукацыі (сярэдняя спэцыяльная, прафэсійнальна-тэхнічная і г. д.) і ліквідуе інстытут экстэрнату. У ім адсутнічае юрыдычнае афармленьне такой формы навучаньня, як магістратура. Прапісаная ў ім тыпалёгія навучальных установаў не адпавядае эўрапейскім стандартам і не забясьпечвае сапраўднай пераемнасьці і тэхналягічнасьці адукацыі.

Сыстэма кіраваньня адукацыяй выбудавана паводле прынцыпу вэртыкалі ўлады і ня мае зваротнай сувязі. Яе структура мае такія элемэнты, як «рана», «гарана» і «аблана», што выконваюць кантрольна-ідэалягічныя функцыі, а не экспэртна-мэтадычныя. У той жа час цяперашняя сыстэма не прадугледжвае элемэнтаў самакіраваньня ў працы навучальных установаў. Такі панятак, як «акадэмічныя свабоды», для большыні кіраўнікоў навучальных установаў паранейшаму застаецца незразумелым і бессэнсоўным.

Скрайняя цэнтралізаванасьць адукацыйнай сыстэмы, яе закрытасьць і непразрыстасьць для грамадзтва (у спалучэньні з афармленьнем аўтарытарнай адукацыйнай эліты на ўзор палітычнай) ствараюць спрыяльныя ўмовы для росту карупцыі ў сфэры адукацыі, пашырэньня ўсялякіх пабораў пад выглядам «платных паслугаў» і «добраахвотных ахвяраваньняў», росту ценявой адукацыі. Асабліва апошнім часам разьвілася практыка «сьпісавага» паступленьня ў ВНУ, калі дэканат пэўнай ВНУ складае сьпіс абітурыентаў, якія павінны паступіць, нягледзячы ні на што. Пашыраюцца таксама формы гандлю экзамэнацыйнымі адзнакамі і дыплёмамі, розныя віды простай і сукрытай «падтрымкі» падчас навучаньня, пераразьмеркаваньне кіраўніцтвам навучальных установаў фінансавых паступленьняў на сваю карысьць. Наагул можна казаць пра імклівы рост карумпаванасьці вышэйшай школы.

Імкненьне дзяржавы забясьпечыць поўны кантроль над усімі формамі адукацыйнай дзейнасьці выяўляецца ў дыскрымінацыі недзяржаўных адукацыйных ініцыятываў (адмова ў выдачы ліцэнзіяў, уставічныя фінансавыя праверкі, праблемы з арэндай навучальных плошчаў і г. д.). Заданьне такой актыўнасьці зразумелае: абмежаваць колькасьць і сфэру ўплыву недзяржаўных навучальных установаў.

У той жа час на пачатку 1990-х гг. узьнік шэраг прыватных адукацыйных праектаў, якія спалучылі новыя «рынкавыя» мэханізмы і інтарэсы «новай старой» адукацыйнай намэнклятуры (Эўрапейскі гуманітарны ўнівэрсытэт, Інстытут парлямэнтарызму і прадпрымальніцтва, Інстытут сучасных ведаў і г. д.). Тым самым адбывалася афармленьне рынку адукацыйных паслугаў, паўставала канкурэнцыя навучальных установаў. Замест сумленнай канкурэнцыі дзяржаўны сэктар аддае, аднак, перавагу адміністрацыйнаму прэсінгу «суперніка».

**Колькасьць ВНУ***




* Крыніца: Галоўны інфармацыйна-аналітычны цэнтар Міністэрства адукацыі.

«Недарэфармаванасьць» сыстэмы адукацыі выяўляецца ў супярэчлівым суіснаваньні ў адзінай адукацыйнай прасторы навучальных установаў і навукова-мэтадычных органаў розных пакаленьняў — «савецкіх» ПТВ і сярэдніх школаў, «заходніх» гімназіяў і каледжаў, традыцыйных інстытутаў падвышэньня кваліфікацыі і новых школаў маркетынгу і мэнэджмэнту, Рэспубліканскага інстытуту вышэйшай школы і незалежных аналітычных групаў. Як вынік, існуе дубляваньне функцыяў і адсутнасьць адзіных прыярытэтаў. Сыстэма адукацыі перагружаная і патрабуе ачышчэньня ад малаэфэктыўных складнікаў. Існуе неабходнасьць аднаўленьня рэальнай сыстэмнасьці, г. зн. забесьпячэньня ўнутранай цэльнасьці, празрыстасьці і сумернасьці ўсіх формаў адукацыйнай дзейнасьці.

Наяўная сыстэма адукацыі фактычна ня мае спэцыяльна падрыхтаваных кіраўнічых кадраў усіх узроўняў. «Мэнэджмэнт у сфэры адукацыі» — гэта яшчэ не запоўненая ніша, бо ў краіне не існуе ні навучальных установаў з такой спэцыялізацыяй, ні практыкі кваліфікаванага адбору пры заняцьці кіраўнічых пасадаў. Арганізацыйна-кіраўнічай працай занятыя не прафэсіяналы, а альбо кар'ерысты (арыентаваныя на дасягненьне ўласнага дабрабыту абы-дзе і абы-як), альбо «свае людзі» (асабіста адданыя начальству і без сваёй уласнай думкі), альбо аўтсайдэры прафэсійнай супольнасьці. Так ці іначай, выпадковы чалавек на месцы кіраўніка сыстэмы адукацыі ня здольны прымусіць яе эфэктыўна працаваць.

Рост апошнім часам камэрцыйнай актыўнасьці навучальных установаў адлюстроўвае, як правіла, не рэальныя патрэбы ўстановаў, а ўзровень амбіцыяў іх кіраўніцтва. Камэрцыйныя праекты маюць пераважна факультатыўны адносна навучальнага працэсу характар, рэальна не прыцягваюць сродкі, а выбудоўваюць «паралельны бюджэт» канкрэтнай установы. Прыкладам можа быць разнаплянавая камэрцыйная актыўнасьць Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту — ад конкурсаў прыгажосьці да радыё Unistar. Пры гэтым стан матэрыяльнай базы, забясьпечанасьць працэсу навучаньня інфармацыйнымі рэсурсамі новага пакаленьня і ўзровень аплаты супрацоўнікаў БДУ застаюцца абсалютна неадпаведнымі статусу «першай ВНУ краіны».

Прынятая сыстэма статыстычнай справаздачнасьці ў сфэры адукацыі не адлюстроўвае базавых паказьнікаў стану і разьвіцьця сыстэмы адукацыі.

Адсутнічае дакладнае ўяўленьне аб нормах навучальнай нагрузкі. Прынятыя на сёньня нормы, як для выкладчыкаў (550 аўдыторных заняткаў для ВНУ замест 150 у ЗША), так і для студэнтаў, завышаныя і супярэчаць эўрапейскім стандартам, што выклікае агульнае паніжэньне якасьці навучальнай працы. Суадносіны колькасьці выкладчыкаў і студэнтаў таксама не адпавядаюць прынятым эўрапейскім стандартам, што дазваляе казаць пра стратны характар беларускай сыстэмы адукацыі. У гэтым выпадку йдзецца і пра неэфэктыўную кадравую палітыку: штаты празьмерна разьдзьмутыя, ацэнка працы ўсярэдненая й не адпавядае рэальнаму ўнёску супрацоўніка, адсутнічае эфэктыўная стымуляцыя творчай актыўнасьці.

Сучаснай сыстэме кіраваньня адукацыяй уласьціва спалучэньне дэманстрацыйнай бюракратычнай актыўнасьці, імправізацыйна-аўтарытарнага стылю кіраваньня, марнаваньня і без таго нязначных сродкаў зь дзяржаўнага бюджэту і хаатычнага эканамічнага (камэрцыйнага) экспэрымэнтаваньня. Фактычна сучаснае кіраваньне беларускай адукацыяй ня здольнае забясьпечыць эфэктыўнага функцыянаваньня і разьвіцьця сыстэмы. Наяўныя кіраўнічыя кадры, дзеючы ў рамках жорсткай дзяржаўнай палітыкі, здольны забясьпечыць у найлепшым выпадку толькі выжываньне канкрэтнай навучальнай установы, але не яе якасны рост. Сыстэма адукацыі выяўляецца неэфэктыўнай ня толькі ў інфармацыйна-мэтадычным, але і ў кіраўніча-эканамічным пляне.

### Высновы

Беларускай адукацыі ўласьцівы *ўсебаковы крызыс*. Замест інфармацыйнага забесьпячэньня яна трансьлюе «інфармацыйны шум», замест творча думаючай «будучыні нацыі» прадукуе канфармістаў ці інтэлектуальных эмігрантаў, замест новых элітаў тыражуе чыноўніцкія кадры, расьцярушвае і люмпэнізуе выкладчыкаў. Неэфэктыўнасьць беларускай адукацыі палягае ня толькі ў нізкай якасьці выніковага прадукту, але і ў прынцыповай няздольнасьці яе кіраўнічых структураў арганізаваць эфэктыўную работу грувасткай і шмат у чым застарэлай сыстэмы. Застарэлыя адукацыйныя мэханізмы працягваюць ствараць «людзей учарашняга дня».

**Святкуйма сваё!**

**Са Святам на тыдні усіх, хто ў гэтыя дні нарадзіўся, пабраўся шлюбам і г. д.**

Рэдакцыя "Скарба Думак".


*Разблытайма таямніцы!*

# Скарб Думак

*Выдаецца з 27 кастрычніка 2003 года.*

№ 7 8.12.03.

Выходзіць у панядзелкі.

Галоўны рэдактар: Міхась ЛЕБЕДЗЬ.
Тэлефон у Менску: 233 61 89.
E-mail: lebiedz@tut.by.

Наклад 299 асобнікаў. *Распаўсюджваецца бясплатна.*